# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 32 (597) ГОД XII 6 ЖНІЎНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### Сустрэча ў ВДК

27 чэрвеня гэтага года адбылася рабочая сустрэча членаў Прэзідыума ГП У. Юзвюка і М. Хмялеўскага з кіраўніцтвам Ваяводскага дома культуры на чале з А. Раманоўскай. Сустрэча гэтая была арганізавана па ініцыятыве ВДК у справах абмяркоўкі спосабаў рэалізацыі пастановы Прэзідыума Ваяводскай Рады Нарадовай № 62/66.

Ва ўступе дыр. А. Раманоўская паінфармавала прысутных аб напрамках працы ВДК, у тым ліку і для беларускай нацыянальнай меншасці, аб якой асяроддзі гэтыя ведаюць мала. Датычыць гэта ў першую чаргу розных семінараў. Нашыя дзеячы, бібліятэкары, настаўнікі, працаўнікі клуба-кавярняў і г. д. маюць магчымасць прымаць удзел у наступных семінарах:

1) 3-дзённых для грамадскага актыву клубаў «Рух» і «ГС».

2) 3-дзённых для гаспадароў клубаў «ГС»,

3) 2-дзённыя для кіраўнікоў святліц.

Праводзяцца яны ў Беластоку, Саколцы і Бельску.

Незалежна ад вышэй успамянутых семінараў праводзяцца 2-дзённыя тэатральныя семінары ў Беластоку I і II ступеняў. 2-дзённыя семінары для дырыжораў духавых аркестраў і лялькавых тэатраў і 1-дзённыя семінары для кіраўнікоў рэцытатарскіх калектываў.

Заахвочваем усіх зацікаўленых да навязання кантактаў з ВДК і запісання на перападрыхтоўчыя семінары.

Далей была абмеркавана патрэба правядзення па прыкладу 1962—1963 гадоў месячных курсаў актыву дзеля падрыхтоўкі яго да працы ў драмгуртках, харавых калектывах, клубах-кавярнях згодна з зацікаўленнем удзельнікаў. Да гэтага ўлады забавязвае ўпамянутая пастанова ПВРН № 62.

Далей былі абмеркаваны пытанні беларускага рэпертуару для аматарскіх калектываў. Дагэтуль асноўным яго пастаўшчыком было БГКТ, а ВДК зусім не мела. Кіраўніцтва Дома культуры забавязалася навязаць кантакты з адпаведнымі пляцоўкамі ў БССР дзеля атрымання дапамогі.

Ажыўленую дыскусію выклікала рэалізацыя пастановы № 62 аб увядзенні ў рэпертуар ваяводскага калектыва «Курпі Зялёныя» некалькіх беларускіх песняў, танцаў і беларускай музыкі. Прадстаўнікі БГКТ даказвалі неабходнасць увядзення беларускага фальклору таму, што на Беласточчыне пражывае беларускае насельніцтва, якое хоча пачуць свае песні, музыку, а ў складзе калектыву ёсць многа беларускай моладзі. Кіраўніцтва ВДК спасылалася на цяжкасці, якія вынікаюць з недахопу адпаведных спецыялістаў, народных убораў і г. д. Вырашана яшчэ раз паставіць гэтыя справы на радзе артыстычнай успамянутага калектыва.

Многа месца прысвечана было працы павятовых домаў культуры ў беларускіх асяроддзях, іх аб'ектыўным цяжкасцям у працы, якая характарызуецца тым, што аматарскі рух патрабуе дапамогі, а ПДК даць яе не могуць з браку адпаведнай базы. У Бельску далей ПДК закрыты, у Гайнаўцы ідуць перагаворы з кіраўніцтвам закладовага дома культуры «Гурнік», на базе якога мае развівацца праца ПДК, у Міхалове сістэматычна штогод змяняюцца працаўнікі і г. д. У такіх умовах рэалізаваць пастанову аб паляпшэнні інструктажу для аматарскага руху вельмі цяжка.

На сустрэчы не было дасягнута згоды ВДК аб артыстычна-інструктажовай дапамозе яго кваліфікаваных працаўнікоў для эстраднай групы ГП «Лявоні-

(Працяг на стар. 4)



Францішак Скарына.

## ЛЮДЗЯМ ПРОСТЫМ ДЛЯ ДОБРАГА НАВУЧЭННЯ

6 жніўня 1967 года мінае 450 год з дня выхаду ў свет першай беларускай кнігі. Адзначаючы гэты слаўны юбілей, нізка схіляем галовы перад Францішкам Скарыною, вялікім гуманістам, вучоным, заснавальнікам беларускага кнігадрукавання.

Канец пятнаццатага — першая палова шаснаццатага стагоддзя.

У Францыі будуюць замак Шэнано паблізу Блуа. Ствараюць свае творы, пранікнутыя ідэямі прагрэсу, паэты Клемон Маро і Пьер Рансар, працуе над раманам «Гарганцюа і Пантагруэль» Франсуа Рабле.

У Германіі пакутліва шукае навуковую праўду Парацельс, Лютэр стварае свае «дзевяноста пяць тэзісаў», а паветра напружанае атмасферай Сялянскай вайны, ідэямі Томаса Мюнцера.

У Англіі Томас Мор марыць аб дзяржаве справядлівасці.

У Іспаніі зараджаецца гарэзлівы раман.

Свежы вецер праносіцца над светам. Нараджаецца разуменне дэмакратыі. Людзі горада спрачаюцца аб філасофіі, літаратуры, этыцы. Людзі прачнуліся, яны бачаць прыгажосць зямлі і саміх сябе.

Мацуецца і пашыраецца разуменне гуманізму. Але адразу ж з'яўляюцца і яго шматлікія ворагі. Пачынаецца бязлітаснае праследванне думкі. Цемрашальства люта супраціўляецца руху чалавечага духу ўперад. Небяспечная нават «Біблія», няхай нават малазразумелая, на лацінскай і старaславянскай мовах.

Жудасная рэчаіснасць, і з ёю не маглі мірыцца лепшыя розумы таго часу. Не мог з ёю прымірыцца і Францішак Скарына, народжаны ў тыя дні, у 1490 годзе, на беларускай зямлі, у Полацку, чалавек, увесь шлях якога быў шляхам барацьбы за «доблесць і веды», за замацаванне каштоўнасці чалавечай асобы ў свеце, за шчасце ўсіх людзей і сваёй роднай краіны.

Скарына — першадрукар не толькі беларускай, але і ўсяе ўсходне-славянскай кнігі. Вучоны, асветнік, змагар, нястрымна прагнучы ведаў чалавек. Ён сын стагоддзя. Культура стагоддзя — культура, афарбавана рэлігіяй. І гэты чалавек хоча, каб людзі свядома разбіраліся ў жыцці, а не зубрыць, як папугаі, усялякія догмы на незразумелай ім мове. «Бог пусціў мяне ў свет з гэтай моваю», і гэтая жывая мова павінна стацца моваю кнігі.

Кнігадрукаванне, «Мастацтва над мастацтвам, навука над навукамі» (Гертэнберг), існуе ў Германіі толькі 50 год, у Італіі — 40, у Жэневе і Лондане — каля 30, калі пажыраемы прагай навукі вандроўны шкаляр атрымоўвае ў

(Працяг на стар. 4)

**(ДА ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ БРЫЛЯ)**

Адно з важных месц у сучаснай беларускай літаратуры займае Янка Брыль, год нараджэння якога супадае з годам перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі.

Янка Брыль — празаік. Але проза яго мае многа агульнага з паэзіяй. Яна характарызуецца лірызмам, шчырай усхваляванасцю, эмацыянальнасцю.

Сваімі высокімі добрымі якасцямі творы Янкі Брыля прыцягнулі да сябе ўвагу чытачоў не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім Савецкім Саюзе. Больш таго, кнігі беларускага празаіка набылі вядомасць і ў многіх замежных краінах. Яны перакладзены на англійскую, балгарскую, венгерскую, іспанскую, нямецкую, польскую, румынскую, славацкую, французскую і чэшскую мовы.

Нарадзіўся Янка Брыль 4 жніўня 1917 года ў г. Адэсе ў сям'і рабочага. Бацька яго ў маладосці ў пошуках хлеба і працы вымушаны быў пакінуць родную вёску Загор'е на Гродзеншчыне. Каля трыццаці год працаваў ён правадніком на чыгунцы. У 1922 годзе бацька знясілены працяглай хваробай, разам з жонкаю і дзяцьмі вярнуўся з Адэсы да сябе на радзіму, якая да таго часу аказалася ў Польшчы. У лютым 1924 года памёр бацька. «У маці нас засталося трох, старэйшаму з якіх не было і чатырнаццаці год», — успамінае Янка Брыль.

## АДНАГОДАК КАСТРЫЧНІКА

З вялікімі цяжкасцямі ўдалося будучаму пісьменніку ў 1931 годзе закончыць школу — сямігодку. Далей вучыцца не прыйшлося. Трэба было працаваць, гаспадарыць на зямлі. Адначасова Я. Брыль працягваў сваю вучобу шляхам самаадукацыі. Шмат чытае рускіх, беларускіх і польскіх аўтараў, асабліва захапляецца творчасцю Льва Талстога.

Важнай падзеяй у жыцці Янкі Брыля была дружба і сувязь з камуністамі-падпольшчыкамі. Ён часта сустракаецца з падпольшчыкамі на вечарынах, дзе моладзь чытала ў голас кнігі, спявала савецкія песні, ставіла беларускія п'есы.

У сярэдзіне трыццатых гадоў Янка Брыль знаёміцца з літаратурнымі выданнямі Народнага фронту, захапляецца рэвалюцыйнай паэзіяй Максіма Танка, спрабуе і сам выступаць у друку. У 1938 годзе часопіс «Шлях моладзі» апублікаваў некалькі яго вершаў.

У сакавіку 1939 года Янку Брыля прызываюць у польскую армію. Там ён служыць радавым у марской пяхоце. У верасні таго ж года ў выніку акружэння і разгрому Гдынскага порта гітлераўскімі войскамі трапляе ў палон.

Летам 1940 года ён уцёк з палону, але няўдала. Зноў трапляе ў канцлагер для ваеннапалонных. А затым перавозяць у іншы лагер. Тут ён сустракаецца са сваім земляком-палонным паэтам Міхасём Васільком. У жніўні 1941 года зноў уцякае з палону, на гэты раз паспяхова. Вясною 1942 года Янка Брыль наладжвае сувязь з партызанамі, а потым, выканаўшы іх заданне, ідзе ў лес, дзе стаецца партызанскім разведчыкам.

Янка Брыль належыць да таго пакалення беларускіх пісьменнікаў, творчасць якіх пачалася па-сапраўднаму пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны.

(Працяг на стар. 4)



Янка Брыль.
Фота: В. Казлова

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ЭКАНАМІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

Эканамічная сітуацыя краін т. зв. Трэцяга свету пагоршваецца. Шэсць год таму ААН праклямавала т. зв., дэкаду развіцця гэтых краін, але гэта мае маленькія шанцы на тое, каб стала рэчаісцасцю. Прадбачвалася тады, што гадавы нацыянальны даход у краінах Трэцяга свету будзе павялічвацца на 5% пры адначасовай дапамозе высакаразвітых краін, якая мела скласці 1% нацыянальнага даходу ў год.

Сёння ўжо ведаем, што ніводзен з гэтых намераў да канца дэкады не будзе зрэалізаваны. Праўда, няма ўпэўненасці адносна фактычных тэмпаў узросту слабаразвітых краін, але вядома, што ад 15-ці год у краінах Трэцяга свету жыццёвы ўзровень мае спадаючую тэндэнцыю і гэта не толькі ў пераліччэнні на аднаго жыхара, але і ў валавой велічыні. Нацыянальны даход рос наступна: 1950—1955 — 4,9%; 1955—1960 — 4,5%; 1960—1964 — 4%, а на аднаго жыхара: 2,8%, 2,1%, 1,5% у год.

Адной з асноўных прычын гэтага з'яўляецца натуральны прырост, які ў апошнія гады ў слабаразвітых краінах склаў 2,5% у год. У 1964 годзе нацыянальны даход высакаразвітых краін складаў на аднаго жыхара 1950 долараў, а ў слабаразвітых краінах 160 долараў.

### ДЫСЦЫПЛІНА

Партыя, урад і прафсаюзная арганізацыя Балгарыі прынялі пастанову аб умацаванні дысцыпліны працы. На падставе праведзенай анкеты і назіранняў у Балгарыі дайшлі да вываду, што дзяржава ў год траціць 200 мільёнаў леваў з-за слабой дысцыпліны працы. У сярэднім кожны рабочы ў год (з-за кепскай дысцыпліны працы) траціць 7 дзён працы ў прамысловасці, 14 дзён у транспарце і 20 дзён у будаўніцтве.

### ЗАРПЛАТА ВЫСОКАПАСТАЎЛЕНЫХ

Югаслаўскі друк апублікаваў інфармацыю аб заробатках высокапастаўленых дзяржаўных служачых. Генеральны сакратар Нацыянальнага Сходу, сакратар Саюзнага Выканаўчага савета і старшыні саюзных рад атрымоўваюць зарплату 3.200 — 3.700 новых дінараў. Старшыня канстытуцыйнага суда і суддзі гэтага ж суда атрымоўваюць у месяц 3.500 — 4.300 новых дінараў (1 долар — 12,5 новых дінараў).

### ГРУБАСЦЬ І САДЫЗМ

У В'етнаме наглядаем вядзенне вайны без яе аб'яўлення. Іменна такую практыку прыняў Гітлер, нападаючы ў 1939 годзе на Польшчу і распачынаючы тым самым другую сусветную вайну. Амерыканцы гэтую тактыку расшыраюць, прымяняючы яе фактычна і на Блізкім Усходзе, пакуль што вельмі замаскіравана. Мілітарным дзеяннем агрэсара ў В'етнаме спадарожнічаюць грубасць і садызм, а гэта таму, што агрэсар не мае ніякіх маральных рацый.

Зараз адзін дзень вайны ў В'етнаме каштуе амерыканцам 70 мільёнаў долараў.

А. К.

## БССР

### БЕЛАРУСКІ

Беларускі тэхналагічны інстытут разбудоўваецца. Зараз агульная плошча будынкаў складае 11 тысяч квадратных метраў. Тут размясціліся 25 агульных і спецыяльных аўдыторый і многа навуковых кабінетаў. Шэсць год таму назад гэта быў Мінскі лесатэхнічны інстытут.

### ФОРУМ КНІГІ

На міжнароднай выстаўцы кніг у маскоўскім парку «Сакольнікі» адзначыўся Дзень Беларускай ССР. На выстаўцы кніжную Беларусь прадстаўляе каля 400 кніг. У кнізе водгукаў віднеюць такія словы: «Цудоўная, ты, Беларусь, не дарэмна я за цябе ваяваў» (сібірак) або «...Захапляюся майстэрствам і ўменнем беларускіх работнікаў кнігі. Выстаўка добра аформлена і дае ўяўленне аб развіцці культуры кніжнай справы БССР» (в'етнамка).

У Беларусі кожны год выпускаецца каля 2 тысяч назваў кніг агульным тыражом 20 мільёнаў экземпляраў. Кнігі Савецкай Беларусі экспартуюцца ў 63 краіны свету.

### У САЎГАСЕ

У саўгасе «Волма» Мінскага раёна прадбачваецца сабраць і намалаціць з кожнага гектара жыта па 16, а пшаніцы «міранаўкі» па 30 цэнтнераў.

### БАЛЕТ

Балетная група Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета БССР паказала на сцэне «Альпійскую баладу» беларускага кампазітара Яўгена Глебава. Спектакль створаны паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава. Лібрэта Р. Чарахоўскай, балетмайстар А. Дадзішкіліяні, мастак Я. Чамадураў, дырыжор Г. Дугашаў. На экраны выйшаў таксама аднайменны фільм.

### «BELORUSSISCHE VOLKSMÄRCHEN»

У Берліне выходзіць другое выданне «Беларускіх народных казак», інфармуе нас «Літаратура і мастацтва». Аўтар артыкула падае, што першае выданне хутка разышлося не толькі ў ГДР і краінах народнай дэмакратыі, але і ў Швейцарыі, Аўстрыі, Даніі і г.д. Адначасова аўтар выражае жаль, што гэтая кніга не з'явілася раней на Беларусі.

Каштоўнасць кнігі ў тым, што тут апублікавана аж 36 тэкстаў невядомых дасюль народных казак, запісаных у 1945—1951 гадах. Казкі запісаны складальнікам зборніка Л. Барагам.

### ТЭЛЕФОНЫ

У 39 раёнах Беларусі тэлефонная сувязь поўнасцю аўтаматызавана. Сёлета аўтаматызацыя тэлефоннай сувязі будзе закончана яшчэ ў 17 раёнах рэспублікі. Усе тэлефоны ў сельскай мясцовасці пяройдуць на кругласутачную работу.

(к)

## ПОЛЬШЧА

### ПОЛЬШЧА — ЯПОНІЯ

У днях 25—27 ліпеня прабываў у Польшчы на запрашэнне міністра замежных спраў Польшчы Адама Рапацкага міністр замежных спраў Японіі Такэа Мікі. У час візіта Мікі правёў шэраг размоў з міністрам Рапацкім, з міністрам замежнага гандлю В. Трампчынскім, з Прэзэсам рады міністраў Юзэфам Цыранкевічам. Размовы датычылі перад усім далейшага развіцця гаспадарчых суаднасін паміж Польшчай і Японіяй, а таксама некаторых моманатаў сучаснага міжнароднага становішча. У час размоў узгоднена, што восенню гэтага года створана будзе польска-японская камісія, якая зоймецца далейшым развіццём гандлёвага абмену, а таксама пашырэннем супрацоўніцтва ў эканамічнай, прамысловай і тэхнічнай галіне паміж абедзвюма дзяржавамі.

У галіне палітычных праблем узгоднена перад усім тое, што абедзве краіны стаяць на становішчы неабходнасці павароту ізраільскіх войск на пазіцыі з-прад 5 чэрвеня 1967 года.

### КАНТРАКТАЦЫЯ

Не сабраны яшчэ з палёў сёлеташнія плёны, а ўжо падпісваюцца дагаворы на пастаўку плёнаў са збору ў наступным годзе. Агулам мае быць законтрактаваных 3,5 мільёна гектараў пасеваў, гэта значыць, на 200 тысяч гектараў больш, чымсьці ў гэтым годзе. Пабольшасця перад усім кантрактацыя збожжавых культур, кантрактацыя ж прамысловых раслін утрымаецца на дагэтуляшнім узроўні. Агулам планецца законтрактаваць 1378 тысяч гектараў збожжавых культур. Да канца чэрвеня падпісаны ўжо дагаворы на каля 600 тысяч гектараў. Найлепшыя вынікі маюць ваяводствы: апольскае, беластоцкае, кашалінскае, шчэцінскае і пазнаньскае — законтрактавана тут больш як палова планаванай плошчы збожжавых культур.

### РАДЫЁ І ТЭЛЕВІЗІЯ

Падае безупынна колькасць уласнікаў радыёпрыёмнікаў, а ўзрастае — тэлевізараў. У мінулым паўгоддзі колькасць радыёпрыёмнікаў зменшылася на далейшых 15 тысяч, а тэлевізараў прыбыло на 157 тысяч.

### ІМПАРТАВАНЫЯ

Неўзабаве паявіцца ў продажу новыя, высокай тэхнічнай і эстэтычнай якасці імпартаваныя радыёпрыёмнікі, тэлевізары і магнітафоны. Закуплена менавіта ў СССР 50 тысяч мініяцюрных, транзістарных радыёпрыёмнікаў, у Венгрыі — 23 тысячы тэлевізараў і ў Чэхаславакіі — 14 тысяч магнітафонаў.

### МЕДАЛЬ ПРЫТЫЦКАМУ

25 ліпеня сакратар КЦ партыі Вітальд Ярасінскі уручыў Сяргею Прытыцкаму — сакратару ЦК камуністычнай партыі Беларусі медаль тысячагоддзя Польскай дзяржавы за вялікія заслугі ў галіне развівання і ўмацоўвання польска-савецкай дружбы. Варта адзначыць, што Сяргей Прытыцкі родам з Беласточчыны, з вёскі Гаркавічы ў Сакольскім павеце.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### СКЛАДЫ НА НАСЕННЕ

Цэнтраля насенная ў Беластоку мае клопаты з перахоўваннем насення. У складах, якімі распараджаецца, можа змясціцца 8 тысяч тон, а ўжо зараз знаходзіцца ў іх 7 тысяч тон насення са збораў матылькоўых, траў, рапсу і г.д. Будуць значныя цяжкасці з перахоўваннем насення збожжа з ПГР. Значна лепш цэнтраля забяспечана сушарнямі і ачышчальнямі насення. Можна ў іх будзе ачысціць і перасушыць дзённа каля 150 тон насення.

### ДАЖЫНКІ

29 ліпеня пакліканы ваяводскі дажынкавы камітэт, на чале якога стаў І сакратар Ваяводскага камітэта партыі — пасол Аркадзь Лашэвіч. Дажынкі ў гэтым годзе адбудуцца ў апошнія дзве нядзелі жніўня ў вядучых вёсках і грамадах. Стануць яны аказіяй да падсумавання дасягненняў сельскай гаспадаркі ваяводства.

### ПАЖАРЫ

У апошняй дэкадзе ліпеня зарэгістравана на тэрыторыі ваяводства хвалю пажараў, у тым ліку пажараў ад маланкі. Так, напрыклад, 23 ліпеня пажары ўспыхнулі аж у 5 мясцовасцях, у тым ліку — у 3 ад маланкі.

### НАСТАЎНІКІ

100 абітурыентаў беластоцкіх настаўніцкіх студый не прынялі прапанаванай ім працы, бо была гэта праца ў вясковых школах ваяводства. У сувязі з тым школьныя ўлады вымушаны будуць прыняць на працу зноў каля 100 некваліфікаваных настаўнікаў. Кваліфікаваныя настаўнікі, якія гвалтам хочуць астацца ў Беластоку, не маюць тут аднак шанцаў знайсці сабе працу ў школьніцтве. З другога боку, Беласток патрабуе кваліфікаваных настаўнікаў — спецыялістаў спеву, музыкі, ручных заняткаў, фізкультуры, якія вучацца ў Элку, і якія зноў ні за што не хочуць пакідаць Элк і пераносіцца ў Беласток.

### «ДЫЯМЕНТЫ»

Інструментальна-вакальны калектыў Беластоцкага прадпрыемства баваўнянай прамысловасці ў Фастах — «Дыяменты» задэбютаваў з 20-мінутным выступленнем у праграме агульнапольскага радыё. Раней «Дыяменты» неаднаразова выступалі на хвалях беластоцкага радыёвяшчання, а таксама па-за межамі краіны — у Гродне і Мінску.

### З СІМФЕРОПАЛЯ

У клініках Беластоцкай медычнай акадэміі прабывае на месячнай практыцы 11-асабовая група студэнтаў з інстытута медыцыны ў Сімферопалі (Украінская ССР). Будучыя лекары ў вольныя ад заняткаў дні адбываюць экскурсіі па ваяводстве і краіне. Наведалі яны Белавежу, Аўгустоў, Варшаву і Кракаў. У жніўні выедзе на практыку ў Сімферопаль 11-асабовая група студэнтаў Беластоцкай медычнай акадэміі.

(п)




**Niedziela 6.VIII.**

9.35 Program. 9.40 „Skarby kurhanów ałtajskich". 10.00 „Przypominamy, radzimy" — „B.H.P. przy obsłudze maszyn". 10.10 „Książę piratów" — film fab. USA. 11.25 „Dieta" — film („Koń, który mówi"). 11.55 Dziennik. 12.05 „Beskid tańczący". 12.45 „W starym kinie" — filmy René Claira. 13.45 PKF. 13.55 „Przemiany". 14.35 Teatrzyk w Koszu. 15.20 „Wielka gra". 16.20 „Zespół jazzowy Kenny Clarke'a i Francy Boland'a" — improwizacje muzyczne — film belg. 17.00 Sprawozdanie z zakończenia Centralnej Spartakiady ZSRR (Moskwa). 18.00 „Śpiewa Margie Ball" (Holandia). 18.35 „Protest" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"). 18.50 „Dzień bez daty" — film tv fab. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Antoś" — film wg noweli Guy de Maupassante'a. 20.25 „Niedziela Sportowa". 20.50 „Melodie Adriatyku" — finał Festiwalu Muzyki Rozrywkowej (Split).

**Poniedziałek 7.VIII.**

17.40 Program. 17.45 Dziennik. 17.50 „Na morskich szlakach". 18.15 „Eureka". 18.45 Kino Krótkich Filmów. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „U źródeł błękitnego Nilu" — rep. film. 20.20 Teatr TV: Marcel Pagnol — „Pan Topaz". 21.40 Dziennik.

**Wtorek 8.VIII.**

10.00 „Cienie nad Notre Dame" — film fab. NRD (cz. I). 10.50 Przerwa. 17.10 Program. 17.15 Telekram. 17.25 Dziennik. 17.30 TELEFERIE: 1. „TV Kronika Podwórkowa", 2. „Przygody Robin Hooda" — film, 3. „Turniej o Żółtą Żyrafę". 19.05 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Nos dla tabakiery". 20.30 „Cienie nad Notre Dame" — film fab. NRD (cz. I). 21.20 „Klaps" — mag. aktualności filmowych. 22.00 Dziennik.

**Środa 9.VIII.**

10.00 „Szesnasta wiosna" — film fab. radz. 11.25 Przerwa. 17.20 Program. 17.25 Dziennik. 17.30 „Na zdrowie". 17.50 PKF. 18.00 Wszechnica TV: „Śladami Marii Skłodowskiej-Curie". 18.30 „Tryptyk baletowy" („Coś nowego"). 19.05 „Coutentin" — film franc. („Zakątki Francji"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Internacjonaliści". 20.30 „Ostatni pojedynek" — film tv („Podziemny front"). 21.00 „Światowid". 21.30 „Zamach na burmistrza" — film tv USA. 22.20 Dziennik.

**Czwartek 10.VIII.**

17.20 Program. 17.25 Dziennik. 17.30 Program filmowy. 18.20 „Angkor Wat i współczesność" — rep. film. 18.35 „Aleksander Blasetti" („Sylwetki X Muzy"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Szlak znaczony historią" — film pol. 20.25 Teatr Sensacji: A. Wydrzyński — „Simone wzywa Hermana" („Pajęczyna") odc. III. 21.50 „Wostan" — film dok. o St. Wojcieszyńskim. 22.05 Dziennik.

**Piątek 11.VIII.**

10.00 „Jak się młody Noszty żenił" — film fab. węg. 11.40 Przerwa. 16.10 Program. 16.15 TELEFERIE: 1. „Piątkowa Poczta Wakacyjna", 2. „Przygody Robin Hooda" — film. 16.50 Dziennik. 17.00 Program filmowy. 19.05 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 IV TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: W. Szekspir — „Otello". 21.50 „10 minut recenzji". 22.00 Magazyn Medyczny. 22.30 Dziennik.

**Sobota 12.VIII.**

10.00 „Siedem nianiek" — film fab. radz. 11.15 Przerwa. 16.55 Program. 17.00 Program tygodnia. 17.15 Dziennik. 17.20 „Pracowite wakacje" („7 milionów młodych"). 17.35 „Chłopiec z kogutem" — film fab. radz. 19.00 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.05 „Na wilczym tropie" — film („Powrót doktora von Kniprode"). 20.55 „Zobaczmy to jeszcze raz" — program rozrywkowy. 21.50 Dziennik. 22.05 Wiadomości sportowe. 22.15 „Długość pocałunku 90" — film fab. CSRS.




**4 sierpnia, piątek**

9.00 Dziennik. 9.15 Dla uczniów. 9.45 Tydzień Uzbeckiej SRR w Moskwie. 10.15 Dla przedszkolaków. 14.40 Program. 14.45 Dziennik. 14.50 Dla uczniów. 15.00 Tydzień Uzbeckiej SRR w Moskwie. 16.00 Piłka nożna ZSRR—Polska. 19.00 „Sztafeta nowin". 20.00 „Szczodre serce pisarza" (Janka Bryl). 20.40 „Goście ze Szkocji. Koncert.

**5 sierpnia, sobota**

13.20 Program. 13.25 Dziennik. 14.00 Tydzień Uzbeckiej SRR w Moskwie. 14.30 „Panorama Białoruska". 15.00 Piłka nozna: „Torpedo" (Moskwa) — „Dynamo" (Moskwa). 16.45 Dziennik. 17.00 Koncert. 18.30 Dziennik. 19.00 Tydzień Uzbeckiej SRR w Moskwie. 20.20 Dziennik. 20.45 „Expo-67". 21.00 „Jugosławia śpiewa i tańczy".

**6 sierpnia, niedziela**

7.55 Program. 8.00 „Budzik". 8.30 Gimnastyka. 9.00 Koncert dla dzieci. 9.40 „W świecie sztuki". 10.10 Dla uczniów. 10.45 Koncert dla żołnierzy. 11.15 Program poświęcony kolejarzom. 11.45 Program muzyczny. 12.00 TV festiwal rolniczy. 13.30 „Kiosk muzyczny". 14.00 Dziennik. 14.10 Reportaż filmowy. 14.30 „50 lat bchaterskich". 15.00 Film dla dzieci. 16.20 „Blaski i cienie". 16.50 „Klub filmowy". 17.50 Dziennik. 18.20 „Anioł śmierci". Film. 20.00 „Trzeci semestr". Skrzynka pocztowa. 20.50 „Melodie Adrii". Transmisja z Jugosławii.

 

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 104

# Адчуванне часу

Сёння ва ўсіх на языку літаратар homo doetus, які спрабуе наблізіць паэзію з навукай, які шукае новыя сродкі мастацкай думкі, замацоўваючы і апраўдваючы пры гэтым першабытную стыхію паэзіі — рытм.

Фізікі не знаходзяць у паэзіі новых імпульсаў, паэты ўсё яшчэ, быццам язычнікі, спяваюць гімны дрэвам і сонцу. Аднак жа дрэва можа стацца крэслам, гвоздзем у пантофлю, перлонам, а нават плексігласам ракеты. Паэтычнае ўяўленне адстае ад навуковай думкі, творчая думка вучонага працуе ўжо там, дзе фантазія паэта бяссільная. Можа адсюль у паэтаў цвёрды і імперычна выпрацаваны кодэкс: не думаць жа ім у духу і стылю арыфмометра! Дакладныя навукі ўплываюць на паэзію ўжо тым, што яны існуюць. Аналіз, дакладнасць, хуткасць — усе гэтыя непахісныя крытэрыі навукі ўздзейнічаюць на самую працу паэта: на пошукі вобраза, рытму, на кампазіцыю верша. Па сапраўднаму хвалююць строгія, лаканічныя, поўныя ўнутранага напружання вершы Віктара Шведа. Паэт Віктар Швед ідзе ў рэчышчы традыцыі беларускай і рускай лірыкі з яе характэрнай асаблівасцю перадаваць настрой лірычнага героя цераз прыроду. Ды і праз прывычныя для Шведа вобразы і інтанацыі ўладна пранікае паэтычная думка, якая фіксуе прыкметы часу, раскрывае асобу сучасніка.

У вершах «Сумленне», «Райск», «Закляты ў камені» многа канкрэтнага і спелага. Паэту ўдаецца знайсці найбольш патрэбныя словы не толькі паводле зместу, але і па гучанню. Трагедыя Хірасімы становіцца яго болем — пафас верша пераканаўчы:

— На ўсходах банка Сумітама —  
Як барэльеф — людскі адбітак.  
Тут чалавек прысеў ад стомы  
І не падняўся больш з граніту»...

Моцнае ўражанне пакідае верш «Апошні рамізнік». Рытм яго прымушае дакладна і выразна вымаўляць кожнае слова. Лірычная сканцэнтраванасць падкрэсліваецца неабходнасцю паўзы і паўтарэння, каб у словах была прастора, неабходная для поўнага іх гучання. Хай знаёмыя нам ўжо гэтыя фразы — акорды, якія вымаўляем з інтанацыяй, што дазваляе ўчуцца ў рытм, нібы падтакваючы выразнаму цокаючаму па гулкай вуліцы кроку каня сярод звону трамваяў і шуму машын. Тут нельга дакараць Шведа запазычэннем, якое было падказана яго асабістай інтуіцыяй. Ён засвойвае ад Галчынскага толькі тое, што адказвае яго творчай манеры, складу яго вобразнага мыслення. Ёсць паэты, пішучыя арыгінальныя вершы, якія з'яўляюцца эпігонамі, ды ёсць такія, якія толькі перакладаюць і запазычаюць, аднак з'яўляюцца арыгінальнымі майстрамі. Нездарма вядомы рускі паэт-рамантык XIX стагоддзя Васіль Жукоўскі сказаў аб сваёй творчасці: «У мяне ўсё чужое і ўсё, аднак, маё. Марына Цвятаева ў сваёй даследчай працы «Лясны цар», і «Erlkönig» бліскуча даказала арыгінальнасць перакладу Жукоўскага, які ў мастацкіх адносінах не мае нічога супольнага з арыгіналам Гётэ. Паводле яе меркавання гэтыя два вершы на адну і тую ж тэму: »Лясны цар» — па-руску і «Лясны цар» па-нямецку з усімі нацыянальнымі асаблівасцямі дзвюх паэтычных культур. Такіх прыкладаў у гісторыі літаратуры не злічыць: «Публій Авідый Назон — Вільям Шэкспір, Ёган Вальфганг Гётэ — Міхаіл Лермантаў, Іван Казлоў — Чарльз Вольф — Марына Цвятаева і г.д.

Мне падабаецца ў Шведа тое, што бударажачы ўплыў польскай паэзіі, ён умела падпарадкоўвае вершы вымогам беларускай паэтычнай традыцыі. У яго няма інертнай манатоннасці апавядання. Паэту літаратуршчына чужая. Верш Віктара Шведа сатканы з музыкі жывой беларускай мовы, з тонкіх адценняў чалавечага настрою. Яму падуладна стыхія вуснай народна-паэтычнай творчасці: вось абрушваецца імклівы лівень рытмаў «Лявоніхі», затым удумлівыя лірычныя інтанацыі прымушаюць нас услухацца ў шорахі і галасы Белавежскай пушчы. Трагічнае ўспрыйманне свету адчуваецца ў метафарычным пераламанні лірычнага вобраза. І гэты вобраз у Шведа часта цалкам зліваецца з прыродай. У вершы «Бяроза і салдат» вобраз растварэння ў прыродзе прымае канкрэтна-матэрыяльную форму. Тут таксама адчуваецца ўплыў народна-песеннай традыцыі. Гэта ж у песнях і казках прырода знаходзіць ўсе чалавечыя пачуцці і ўласцівасці.



**Віктар Швед.**  
Фота: З. Зарэмба

У Шведа бяроза над магілай салдата — вобраз плачу і болю, з яе галін «пацяклі на твар салдата слёзы». Чуецца вечны матыў аб высокай духовай блізкасці чалавека і прыроды. У вершы выступае далейшае фарміраванне Шведа як паэта: ад паэзіі абагульнення да паэзіі мастацкага дэталю, які сам падказвае чытачу абагульненне. Швед любіць слова і вобраз, шукае яго, а гэтыя пошукі застаўляюць паэта быць наглядальнікам людзей і жыцця. Няяркія знешне, некрыклівыя ў выражэнні пачуцця вершы Віктара Шведа дапамагаюць нам усведаміць сутнасць традыцыі. Паэт па-свойму бачыць свет, яго бляскі і цені, суровыя і радасныя яго падрабязнасці, па-свойму перадае пачуццё непаўторнасці. У яго вершах — узорчатае самацвецце беларускага слова, яно аддыхае свежасцю даспяваючага коласа, прывабнасцю світання над Белавежскай пушчай. Першая частка зборніка — «Бацькоўскі парог» вызначае лакальнасць многіх вершаў. Патрыятызм у Шведа — таксама паэтычнае паняцце, глыбокае па свойму зместу. Ён добра ведае сваю Беласточчыну, яе песні, звычаі, колеры, любіць Беларусь, любіць нават само гучанне гэтага слова:

«Я беларус, рос у сялянскай хаце,  
Праз спарахнелы рачкаваў парог.  
Любоў да спрацаваных бацькі, маці  
У глыбіні грудзей сваіх збярог».

Вачыма памяці і сэрца бачыць паэт родны дом з простым драўляным ганкам ля дарогі, над якой таямніча шапацяць старыя бярозы, чарнеюць шпакоўні. Чытаючы вершы Шведа, бачыш, як Белавежская пушча зелянее, а потым ускалыхае халодным румянцам завядання — і вось ужо выяўляюцца кругом рабрыстыя скаты ўзгоркаў, цямнеюць і знікаюць з вачэй, а над імі раптам шугае крыламі белы лебедзь поўначы — мяцеліца, і дрэвы, як воблакі, звісаюць над зямлёю, захутаныя ў сінія полагі інею.

Крытыкі ў ацэнцы творчасці карыстаюцца вядомай ісцінай: «Паэзія — гэта здзіўленне». Не, паэзія — гэта хвароба, нельга аднак хварэць вечна. Паэтам бываем толькі ад выпадку да выпадку, хоць і імкнемся ім быць заўсёды. А дзе пачынаецца прывычнасць, там канчаецца паэзія. Родная прырода з яе яркімі кантрастамі выклікае ў Шведа вокліч здзіўлення. Колькі ж паэтаў прызнавалася, што прырода зрабіла іх паэтамі!

Светасузіранне Шведа акрэслена не толькі веліччу і прыгажосцю роднай прыроды, а ў першую чаргу цяжкімі гадамі вайны і працы.

Праца — не тупое намаганне мускулаў, толькі спаборніцтва духа, стваральнага трывалыя каштоўнасці. Гэты духоўны пачатак фізічнай працы адчувае Швед. Грамадзянскія і народныя матывы ў яго лірыцы займаюць вядучае месца, нават у вершах для дзяцей.

Словы ў Шведа маюць быццам бы падвойны сэнс — сённяшні і гэты далёкі, успрыняты з дзіцячых гадоў, які падымае з дна душы цэлы свет успамінаў, пачуццяў, вобразаў, увасабленняў. Таму ў яго вершах быццам нанава выступае яго сэнс, новае вырастае штодзённасці, канкрэтна, выразна, жыва выступае яго сэнс, навае вырастае са старога, становіцца сродкам паэтычнага выражэння. Вострае пачуццё радзімы пераходзіць у тэму радзімы. Верш насычаны часам, вывераны на слых, адтуль гэтая шчодрасць на звончатыя, быццам гуслі, словы, пачэрпнутыя з акіяну вобразнай народнай мовы.

Пажадаем паэту Віктару Шведу добрай дарогі. Няхай у пошуках жывой вады для творчасці паэты «Белавежы» часцей прыпадаюць да старых крыніц роднай Беларусі, а таксама не баяцца запазычанняў і ўплываў, без якіх не можа развівацца ніводная культура.

**Васіль Качноў**  
Лодзь

# Т-П-Р-Р-Р-У

Фабрыка, трактар, верталёт, ракета — цвёрдыя словы сённяшняга дня.

Яны вызначаюць дарогу прагрэсу капітанам круглага карабля. Скрыгічуць трыбы агромнай машыны. Крывую грозы крэсліць радар. Нястройным рытмам працуюць турбіны. — Іх, якія прагналі мару, песню заглушылі, згрызае іржа.

Арыфмометры траскочуць — грошы, грошы, франкі, долары, цэнты. Круцяцца электрычныя мазгі. Кроў пераводзяць у працэнты.

Ратунку крычыць планета.

Тэрмаядзерныя рэактары рагочуць.

На гарызонце хмараю чарнее катастрофа.

**Юрка Геніюш**



# Святая студня

Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына!  
Дзяцінства босае, замурзанае лета,  
Святая студня з жураўлём успамінаў,  
Сезам, дзе ўсё маё ляжыць ў фрагментах.

Даўно я гэты дзіўны гарод кінуў,  
Як ўсё, што хочаш ці не хочаш, ў лету.  
На сценах памяці вісяць партрэты  
Выразных і яскравых сёння ласк матчыных.

Дарога ўсё вышэй, вышэй пад гору...  
Назад зыйсці, вярнуцца да пралогу?  
Дык мацярынства як гарачка ў хворага!

Іду сваёй нятоптанай дарогаю.  
І чую праайчыны ўсюды подых —  
Бягу на Аю-даг, гляджу на чорны воды.

**Іван Чыквін**



# Касмічная эра

Гура! Гура! Мы смела прэмся ўгору. З выдатным поспехам зрабілі першы крок.

Піп-піп. Пііп-піп. Пішчыць — спявае ўслужных спутнікаў вясёленькі вянок. Калісь далёкі месяц — сёння блізка. Усё болей позіркаў кіруецца на Марс. Пра неба марым. Не баімся рыска. Далей! Далей! Гура! Упярод!

Цішэй! Цішэй сябры! Каб не забыцца:

Што спешка на карысць адно пры лоўлі блох. Што шмат лягчэй паддзыгнуць цім «мякка прызямліцца». І што па тое, каб браць штурмам высоты, трэба раней цім думак запускаць ракеты, гаспадаром быць дома — стаяць нагамі цвёрда на зямлі.

**Юрка Геніюш**



# КАЯННЕ

Не хадзіў на спатканні ў сцішэлую пару змяркання  
Біў тады ап'яняючы пах смуродзіны і мацейкі.  
Ночы тыя, што сплывалі на разгойданых, пружыністых хвалях,  
мы праседжвалі да канца.  
Мы бачылі тысягі ападаючых зорных спалохаў  
Глядзелі інакш на жыццё, яго прыгажосць і прывабнасць.  
Яны, здаецца, існавалі для нас саміх.  
І мы гэта бачылі. Не прадбачвалі толькі зменных каляін у жыцці.  
Сэрцы нашы не поўняцца ранейшай песняй і пяшчотай. Цяпер  
і ты — ачужалася і тваё дзявочае супраціўленне ў пацалунку.  
Усё пагасла як ранішні прысак халодны  
Ночы летнія не маюць таго ранейшага зместу  
Адыйшлі яны, як дарога губляецца за паваротам. Усё з-за нашага  
злачынства.  
Ты адыйшла. Мы розныя людзі  
Ці каюся і шкадую?  
Але няма ў гэтым нідзе прабачэння!

**Янка Цялушэцкі**





 

 



# ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

### ХТО ШТО СКАЗАЎ?

**ІРЭНА ФЕДАРУК**
Бельск, вучаніца, год 16
Прачытала
**«Грозная пушча»** А. Куляшова
**«У палескай глушы»** Я. Коласа
**«Калі зліваюцца рэкі»** П. Броўкі.

«Выбраныя творы мне вельмі падабаліся. «Грозная пушча» таму, што аўтар у ёй прадставіў барацьбу сялян і рабочых з памешчыкамі, барацьбу за светлае будучае. «У палескай глушы» таму, што ў ёй паказана прырода Палесся, яго хараство асаблівае. Прырода гэта сваёю прыгажосцю не ўступае іншым. «Калі зліваюцца рэкі» падабаецца мне таму, што героямі ў ёй з'яўляюцца маладыя — будаўнікі сацыялізма. Моладзь ведае, якім было мінулае і яна не жадае яго павароту».

**ЯН БУРКЕВІЧ**
Парцава, Бельскі павет, вучань, год 16
Прачытаў:
**«Курган»** Я. Купалы
**«Дарога бяжыць насустрач»** Я. Курто
**«Сустрэча на ростанях»** А. Кулакоўскі

«Творы мне падабаліся таму, што паказалі барацьбу маладых беларусаў з фашыстамі. Барацьбітамі былі нават 13-цігадовыя дзеці і, як на свой узрост рабілі яны вельмі многа».

**ЛЮБА АНУФРЫЮК**
Агароднікі, Бельскі павет, вуч., год 16
Прачытала:
**«Праз бурныя парогі»** А. Зарыцкага
**«Каб шчасліва жыць»** П. Кавалёва
**«Шчасце маё»** М. Пянкрата.

«Гэтыя творы мне падабаліся таму, што даведалася я тут як маладыя хлопцы змагаліся за свабоду сваёй радзімы».

**НОННА ПЛЮТОВІЧ**
Бельск, вучаніца, год 18
Прачытала:
**«Новая зямля»** Я. Коласа
**«Векапомныя дні»** М. Лынькова
**«Трэцяе пакаленне»** К. Чорнага.

«Выбраныя творы я залічаю да самых выдатных пазіцыі беларускай літаратуры. Паказваюць яны жыццё і імкненні беларускага народа ў розных гістарычных перыядах. «Векапомныя дні» малююць вобразы герояў, якія з'яўляюцца ўзорам чалавека і грамадзяніна».

**ЛЕНА СІЛЬВЕСТРУК**
Зубава, Бельскі павет, вуч., год 17
Прачытала:
**«Новая зямля»** Я. Коласа
**«Салавей»** З. Бядулі
**«Трэцяе пакаленне»** К. Чорнага.

«Твор Чорнага «Трэцяе пакаленне» мне падабаецца таму, што аўтар рэалістычна паказаў тут змаганне чырвоных з белымі ў час грамадзянскай вайны ў Расіі. Аўтар з сімпатыяй адносіцца да камуністаў, а з нянавісцю да іх ворагаў».

**ТАІСА ЗЯЛІНКА**
Сухавольцы, Гайнаўскі павет, вучаніца, год 17
Прачытала:
**«Сымон Музыка»** Я. Коласа
**«На прасторах жыцця»** Я. Коласа
**«На ростанях»** Я. Коласа.

«Найбольш з гэтых твораў падабаецца паэма «Сымон Музыка». З яе мы даведваемся аб жыцці беларускага народа ў капіталістычным ладзе. Гэтае жыццё пісьменнік адлюстроўвае рэальна, паказвае лёс беларускіх талентаў, якія ў капіталістычных умовах марна гінулі».

## ВІКТАР ШВЕД — ЛАЎРЭАТ ВАЯВОДСКАЙ УЗНАГАРОДЫ

21 ліпеня г. г. на ўрачыстай сесіі Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку, якая адбылася ў тэатры імя Вянгеркі, былі ўручаны ўзнагароды за распаўсюджванне культуры на Беласточчыне. Сярод шасці лаўрэатаў сёлеташняй узнагароды з прыемнасцю адзначаем паэта і дзеяча БГКТ Віктара Шведа, які прэміяваны за грамадскую і літаратурную дзейнасць. Сардэчна віншуем!

З беларускіх газет

## БЕЛАРУСКІЯ ЗНАХОДКІ Ў ПОЛЬШЧЫ

Аўтар гэтых радкоў на працягу паўгода вывучаў у музеях Польскай Народнай Рэспублікі старажытныя рэчы, якія трапілі сюды пры розных акалічнасцях з Беларусі. Асаблівай увагі заслугоўваюць некаторыя творы беларускага сярэдневяковага мастацтва. Адна з вядомых да гэтага часу рэліквій — праваслаўны абраз XV стагоддзя з Лагойска, які знаходзіцца ў мястэчку Бечы Жэшоўскага ваяводства. Гэта знаходка была выяўлена ў часе археалагічных абследаванняў Жэшоўскага ваяводства сумесна з археолагам цэнтральнага музея ваяводства А. Шалапетам.

Як паведаміў мне дырэктар мясцовага музея ў Бечах — д-р Т. Слаўскі, ім вывучаліся адпаведныя архіўныя дакументы і было высветлена, што гэты старажытны мастацкі твор быў куплены ў Лагойску польскім каралём Янам Казімірам. Знаходка гэта з'яўляецца цікавым творам для характарыстыкі ранняга беларускага мастацтва, яна павінна быць вывучана нашымі мастацтвазнаўцамі.

Акрамя гэтага, у музеях Гданьска і Вілянова, што каля Варшавы, захоўваецца вялікая колькасць слуцкіх паясоў, якія таксама моюць навуковае значэнне для вывучэння сярэдневяковага мастацтва беларускага народа.

**Л. Побаль**
кандыдат гістарычных навук,
старшы навуковы супрацоўнік
Інстытута гісторыі
АН БССР
(«Звязда» 18. VII. 1967 г.)

# "ЗАЛАТОЕ РУНО"

Гарцэры з Бельскага павета на гэты раз разбілі свае палаткі ля вёскі Дубна. Зараз побач, у школе ў вёсцы Нурэц, сарганізавана адпачынак зухам. Пры ўваходзе ў лагер затрымоўвае кожнага чужога вартаўніка - гарцэр. Да каменданта лагера **Аляксандра Бартошука** пакуль што цяжка дабрацца. Сёння па самыя вушы работы: трэба адаслаць адных гарцэраў і прыняць наступную чаргу. Урэшце на хвілінку маем намесніка каменданта **Збігнева Шчэсняка** і інструктара па фізкультуры **Яна Снарскага.**



Прыехаў другі турнус.

— Скажыце, калі ласка, чаму такая чарговасць і што наогул у вашым лагеры чуваць?

— Каб мець якое - небудзь уяўленне аб нашым лагеры, — гаворыць З. Шчэсняк, — дык трэба быць тады, калі ён працуе, а сёння якраз ад'язджае першы турнус гарцэраў і гэта гарцэраў у асноўным з вясковых асяроддзяў, а прыехалі толькі што новыя. Сёння заняткаў з імі весці не будзем, таму што трэба іх расквартараваць і навесці лагерныя парадкі.



Ля гарцэрскіх палатак.

— Мне лагер, — уключаецца Я. Снарскі, — гэта спорт, перад усім. Зрэшты, з першым турнусам, які вось зараз ад'язджае, мы правялі вялікую працу. Па-мойму, тое, чаго мы іх навучылі, прыдасца ў кожнай школе. Не выключаю, што не адзін з удзельнікаў нашага лагера стане памочнікам ці актывістам настаўніка фізкультуры ў школе...

Наша размова абрываецца. Размоўцы мусяць ісці на развітальную адным, а прывітальную другім лінейку. А. Барташук падае загады, і на тварах ад'язджаючых, загарэлых і адпачытых гарцэраў малюецца сумнае ўнутраннае пытанне: — Чаму так хутка?

Аўтамашыны адвозяць гарцэраў. Мы астаемся з другім турнусам. Пасля першага смачнага абеда абавязковы адпачынак усім. Не мае яго камендант, якога просім у палатку «Камэнды лагера» каб нешта пачуць.

— Чаму перакінуліся ў Дубна ў гэтым годзе? — задаю першае пытанне.

— Некалькі прычын на гэта склалася. Першая — хіба тое, што зараз побач можна мець у прыгожай школе лагер зухам, а па - другое, дык месца тут, калі разыходзіцца аб клімат, дасканалае. А затым дык - амаль на месцы аўтобусны прыпынак і блізка вёска.

— Чым займаюцца гарцэры ўдзельнікі лагера?

— Пытанне вельмі шырокае, але пастараюся вам дапамагчы і скажу коратка: праводзім шкаленне гарцэраў у розных галінах гарцэрскай працы, а «Ніва» аб іх пісала не раз.

— А «Залатое руно»?

— Думаў, што аб «Залатым руне» запытаецеся раней. Перш за ўсё — мы можам пахваліцца дасягненнямі. З першым турнусам мы правялі два паходы па лясное руно, і, калі лічыць разам з зухамі, сабралі 302 кг. чорных ягад і 17 кг. лісічак, на суму 2 318 зл. Але важнае і тое, што лагер называецца «Залатое руно». 50 прац. сумы за праданае руно, як вы ведаеце, ідзе на фонд пабудовы школы ў В'етнаме, а 50 прац. астаецца ў лагеры.

— План вашага гуфца — сабраць 345 кг ляснога руна?

— Так, але 319 кг выканаў толькі першы турнус, а зараз у нас пачне другі працаваць.

— Як наогул ацэньваеце лагер як камендант і якія вашы пажаданні?

— Думаю, што лагер добры, у добрым месцы, мае электрычнае святло, на месцы маем кіно, тэлевізар.

Найлепшай ацэнкай з'яўляецца той факт, што не было выпадку, каб моладзь пакідала лагер. Наадварот, дзеці хочуць астацца тут даўжэй...

Сапраўды, тут міла і прыемна. Лагерам давольнае таксама асяроддзе. Фільмамі, якія тут высвятлялі кожны тыдзень, карысталіся сяляне з Дубна, а для школы ў Нурцы гарцэры з лагера зрабілі спартыўную пляцоўку. Аднак найдаўжэй астаецца ў памяці жыхараў і гарцэраў вечар савецкай паэзіі і песні, дзе выконваліся рускія, беларускія і ўкраінскія песні.

**А. Карпюк**



Лясное руно пойдзе нават на экспарт, за граніцу.

---

ты сакрэтнай службы, ідэальным укрыццём для снайпера. Там не было ні душы.

Усё ж ніводзін снайпер не мог быць упэўнены, што яго выпадкова не ўбачаць і пазней не ўспомняць, што ён там знаходзіўся. Так здарылася і з Освальдам. Гівенс выявіў, што пакінуў цыгарэты ў кішэні пінжака. Ён вярнуўся і сустрэў Освальда на шостым паверсе. «А ты што, не збіраешся ўніз? — запытаўся ён здзіўлена. — Ужо амаль дванаццаць». «Не, сэр», — адказаў Освальд, як заўсёды, пачціва.

Праз 20 мінут Рой Трулі і яго хлопцы размясціліся перад будынкам склада і прыслухоўваліся да рокату падыходзіўшых машын. Малады тэхасец Арнольд Роуленд, які разумеў толк у вінтоўках, стаяў унізе разам з жонкай з 12 гадзін 14 мінут. Ён убачыў сілуэт Освальда ў акне, і яму здалося, што ён трымае ў руках вінтоўку са стэрэаскапічным прыцэлам. Адна рука Освальда была на прыкладзе, а другая падтрымлівала дула.

Паліцэйскі стаяў за 12 футаў ад Роулендаў, але Арнольду не прыйшло ў галаву звярнуць на гэта яго ўвагу. Ён вырашыў, што Освальд — ахоўнік прэзідэнта, і сказаў жонцы:

— Хочаш паглядзець на агента сакрэтнай службы?

— Дзе? — запыталася яна.

— Там, у памяшканні, — адказаў ён.

На заходнім баку Хьюстан - стрыт з 12 гадзін 20 мінут чакалі праезду прэзідэнцкіх аўтамашын Роберт Эдвардс і Рональд Фішэр. Раптам Эдвард сказаў: «Паглядзі на таго хлопца». І Фішэр паглядзеў у тым напрамку, куды паказаў Эдвардс. Зброі ў руках Освальда яны не бачылі, але Эдвардс звярнуў увагу на позу Освальда. Фішэр згадзіўся, што яна была дзіўная. Чалавек, якога яны ўбачылі ў акне, стаяў напружана і глядзеў направа, убок ад галоўнай вуліцы. Фішэру здалося, што «ён зусім не рухаўся, а толькі глядзеў, зусім як статуя».

Сведка, які бачыў Освальда бліжэй за ўсіх іншых вядомых сведак, — вадаправодчык Говард Брэнан, прыйшоў на плошчу ў 12 гадзін 18 мінут. Ён добра запомніў гэты час па табло з гадзіннікам і тэрмометрам, які ўстаноўлен на даху склада. Брэнен прыладзіўся на цэментавай агарожы вышынёй у 3,5 фута (фут — 30,48 сантыметра) прама насупраць уваходу ў склад і знаходзіўся, такім чынам, на 40 ярдаў (ярд 91,44 сантыментра) ніжэй за Освальда. Сонца пякло. Ён выцер пот з ілба рукавом сваёй рабочай кашулі колеру хакі, а затым падняў галаву, каб паглядзець, колькі градусаў паказваў тэрмометр. Але разгледзець тэрмометру ён не змог і выпадкова слізнуў позіркам па шостаму паверху склада. Ён убачыў напружаны твар Лі Освальда ў профіль. Брэнан здзівіўся, чаму гэты малады чалавек стаяў так нерухома.

З Мейн - стрыт чуліся аддаленыя крыкі. Брэнан, Роуленд, Эдвардс і Фішэр забыліся пра дзіўную фігуру ля адчыненага акна і пачалі глядзець наперад. Эдвардс усхвалявана сказаў: «Вось яны, едуць».

**Працяг будзе**



 




Яшчэ старажытныя грэкі, якія лепш за нас ведалі мора, добра ведалі якасці дэльфінаў.

Прытрымліваючыся старой традыцыі, сам амаль верачы ў гэта, Опен расказаў нам у паэме «Алеуціка» аб іх легендарным паходжанні.

Аднойчы Дыёніс, бог віна і асалоды, знаходзіўся ў Ікарыі ў аблічччы простага смертнага, які падарожнічаў на караблі, што плыў у Наксос. Раптам ён пачуў гутарку матросаў. Яны сабраліся ўкрасці яго і прадаць у робства ў Азію.

Вярнуўшы сабе сваю божую сілу, Дыёніс ператварыў вёслы ў гадзюк, аплёў увесь карабель плюшчам, пачулася спяванне свірэлай. Здзіўленыя гэтымі цудамі маракі кінуліся ў мора і патанулі б, калі б іх апякун Пасяйдон не ператварыў іх ў дэльфінаў, прыняўшы ў сваё царства.

Ныраючы ў хвалі і першы раз варушачы плаўнікамі, людзі, якія сталі рыбамі, зведалі прыгажосць глыбіні. Але дэльфіны не забылі, што былі людзьмі і ў глыбінях свайго розуму захавалі памяць аб гэтым...

Сёння палеантолагі сыходзяцца на тым, што дэльфіны паходзяць ад вымерлага сухапутнага млекакормячага аддаленым продкам якога быў крэадонт (вялізны пацук, косці якога адкапаны ў Манголіі). Продак дэльфінаў адшукваў сабе ежу на берагах мора, а потым і ў моры эвалюцыяніраваўшы настолькі, што пачаў жыць у вадзе.

Раскопкі паказваюць, што такая адваротная эвалюцыя, г. зн. вяртанне ў мора, адкуль выйшла ўсё жывое, мела месца 35 мільёнаў гадоў назад.

Пад канец другой сусветнай вайны, у час якой вялікую ролю ў барацьбе з падводнымі лодкамі адыгралі эхалоты, спецыялісты акустыкі амерыканскага флоту заўважылі, што дэльфін валодае дасканалым прыёма - перадатачным ультрагукавым апаратам, які дазваляе яму выявіць перашкоду або здабычу хутчэй і дакладней, чым любыя ваенныя прыборы.

Эхалот — гэта прыбор, які вызначае месцазнаходжанне прадмета. Флот Злучаных Штатаў, а таксама прамысловыя і навуковыя лабараторыі звярнуліся да лепшых біёлагаў, фізікаў, інжынераў, матэматыкаў, псіхолагаў і кібернетыкаў, каб яны даследвалі характэрныя асаблівасці эхалота ў дэльфіна і па меры магчымасці сканструявалі прыбор на яго аснове.

У 1950 годзе доктар Келаг з універсітэта штата Фларыда даказаў, што дэльфін можа арыентавацца, не бачачы, г. зн. арыентавацца ўначы або ў мутнай вадзе.

Вопыты паказваюць, што дэльфіны на вялікай адлегласці адрозніваюць рыб самых розных памераў і нават адрозніваюць з закрытымі вачыма сапраўдную рыбу ад прадмета ў форме рыбы.

Гукі, якія падаюць дэльфіны, нагадваюць свіст, скрыгатанне і хлюпанне. Іх крыніцай з'яўляецца размешчаная ў галаве жывёліны сістэма камер і клапанаў, якія бурна сціскаюць паветра дыхальных шляхоў, выштурхоўваючы яго затым праз невялікія рагавіцы па абодвух баках ноздраў. Толькі нямногія з гэтых гукаў успрымае чалавечае вуха.

Карабель, абсталяваны радарнымі ўстаноўкамі, пастаянна «абмацвае» гарызонт сістэмай радыёсігналаў. Гэтак жа — дэльфін. Ультрагукі, якія ён падае канцэнтруюцца касцявымі рэфлектарамі ў вобласці лба такім чынам, што ўзнікае накіраваны пучок хваль.

Гэты незвычайны орган дэльфіна — верх дакладнасці, які перавышае вялікія і складаныя эхазонды, што канструююцца чалавекам. Ён працуе беспамылкова.

Цікавае назіранне ўдалося правесці ў 1962 годзе Джону Дрэеру, каліфарнійскаму акустыку, які ў праліве Сан-Дыега ўстанавіў шмат алюмініевых прутоў, лесвіц і падводных мікрафонаў. Аднойчы ён заўважыў за 500 метраў ад агароджы статак з пяці дэльфінаў. Падводныя мікрафоны ўмомант зарэгістравалі гукавыя сігналы. Гэта былі звычайныя, рэгулярна пасылаемыя сігналы, што служаць для агульнай арыентацыі. Наблізіўшыся да 400 метраў, дэльфіны збіліся ў кучку. Сігналы змоўклі. Тады ад статку аддзяліўся «разведчык», скрупулёзна агледзеў перашкоду і вярнуўся да астатніх жывёлін, якія ўвесь час спакойна чакалі яго. Цяпер мікрафоны трансліравалі цэлую гаму гукаў, якую жартам можна назваць «кансіліумам».

Дэльфіны аказаліся самымі «інтэлігентнымі» жывёлінамі. Лічаць, што «інтэлектуальныя» здольнасці жывёлін залежаць ад адносін мазгавой масы да масы ўсяго цела, кандэнсацыі клетак мозгу і складанасці мазгавых звілін. Дык вось, мозг дарослага дэльфіна ў сярэднім важыць 1,8 кілаграма, мозг дарослага чалавека — 1,7 кг, а шымпанзе — 0,34 кілаграма. Вага мозгу фэл:фіна складае 1,2 працэнта яго вагі, у чалавека — 2,05 працэнта, а ў шымпанзе — 0,7 працэнта.

Здольнасць узаемаразумення з дапамогай мовы сярод асобін аднаго роду лічыцца, безумоўна, адной з важнейшых умоў «інтэлекту».

Дактары Дрэер і Эванс, выкарыстоўваючы спецыяльныя падводныя ўстаноўкі, правялі сістэматызацыю запісаў «мовы» дэльфінаў. Запісы сінхранізаваліся затым з кінастужкай, якая паказвала сітуацыі, у якіх дэльфіны падавалі тыя або іншыя гукі. Даследчыкі прыйшлі да вываду, што жывёліны згаворваліся перш за ўсё пры дапамозе свісту. Удалося ў некаторых выпадках растлумачыць 32 віды свісту. Адзін з іх служыць своеасаблівым сігналам «СОС». Назіралася і ў моры, і ў басейне, як пры падачы такога сігналу дэльфіны спяшаліся на дапамогу параненаму або хвораму дэльфіну.

Другім сігналам, які ўдалося растлумачыць, быў сігнал, што падае самка, жадаючы звярнуць на сябе ўвагу самца.

Работай над стварэннем чагосьці накшталт слоўніка «дэльфінавай мовы» захапіўся інжынер Роберт Хокінс.

Другі даследчык доктар Лілі, работы якога атрымалі вялікую вядомасць, замест спроб перакладу «дэльфінавай мовы» на чалавечую стараецца навучыць жывёлін... англійскай. Яго доследы субсідзіруюцца агенцтвам па аэранаўтыцы і асваенню касмічнай прасторы, якое лічыць, што вопыт, атрыманы ў спробе знайсці агульную мову паміж чалавекам і дэльфінам, можа спатрэбіцца ў будучым, калі ў чалавека з'явіцца неабходнасць дагаварыцца з высокаразумнымі жыхарамі іншых планет.

Самым здольным дэльфінам быў самец па мянушцы Эльвар. Ён навучыўся гаварыць «бай, бай» («прывітанне, прывітанне»), па-жаночаму смяяцца і «выгаворваць» па складах некаторыя словы, а таксама лічбы ад 1 да 10.

«Калі б ўзаемаразуменне чалавек — дэльфін было ўстаноўлена, — піша ваенны дэльфінолаг марской навуковадаследчай станцыі ЗША доктар Рэман, — і калі б дэльфінам можна было давяраць, тады стала б магчымым іх выкарыстанне ў самых разнастайных мэтах: для супрацоўніцтва з вадалазамі або транспартавання апаратуры для падводных станцый, для падводных здымак, лакалізацыі мін у амерыканскіх водах і ўстаноўкі іх у водах праціўніка, для сігналізацыі аб паяўленні варожых падводных лодак у адкрытым моры».

Гідрадынаміка мае свае жорсткія законы. Яны, як кажуць, біблія для інжынераў - суднабудаўнікоў. Дэльфін, відаць, іх не ведае, бо рухаецца ў сваёй стыхіі ў тры разы хутчэй, чым павінен! Паводле законаў гідрадынамікі, хуткасць дэльфіна не павінна перавышаць 15 вузлоў, або 27,7 кіламетра ў гадзіну. Але вось адзін капітан амерыканскага эсмінца бачыў у 1963 годзе статак дэльфінаў, якія весела забаўляліся каля судна, што плыло з хуткасцю 32 вузлы. У другім выпадку менш верагодныя рапарты паведамлялі аб дэльфінах, якія развіваюць хуткасць да 40, 55 і нават 60 вузлоў.

Сакрэт шалёнай хуткасці дэльфіна асабліва цікавіць канструктараў караблёў, падводных лодак і тарпед. У чым жа гэты сакрэт? У тым, што дэльфіны навучыліся кантраляваць і ліквідоўваць завіхрэнні, якія ўзнікаюць вакол цела, якое плыве.

Нямецкі аэрадынамік Крамер сканструяваў ужо эксперыментальнае пакрыццё для карпусоў падводнай лодкі, якое імітуе скуру дэльфіна.

Дасягненні марскіх млекакормячых ставяць перад вучонымі - фізіёлагамі і іншыя загадкі. Як, напрыклад, здараецца, што гэтыя жывёліны не ведаюць азотнага наркозу, які пагражае вадалазам. Як вядома, вадалаз, які працуе на значнай глыбіні, павінен вельмі павольна і асцярожна вяртацца на паверхню. Інакш азот, які пад узросшым ціскам насыціў кроў, адразу ж пачне выслабаняцца ў выглядзе бурбалак, што можа стаць прычынай смерці.

У нас яшчэ не так многа інфармацыі аб здольнасцях дэльфінаў.

### ВАРАЖЭЙ ПАГОДЫ

Зараз прагнозам пагоды займаюцца вялікія гідралагічныя цэнтры, якія маюць лабараторыі са складанымі прыладамі. Лабараторыі супрацоўнічаюць з загранічнымі цэнтрамі доследаў пагоды, бесперапынна атрымоўваюць даныя аб тэмпературы, сырасці і ціску паветра, аб атмасферычных ападках, кірунках ветраў і родзе хмар. У савецкіх лабараторыях ёсць таксама інфармацыі савецкіх штучных спадарожнікаў Зямлі. Карысці спадарожнікаў відавочныя — іх навуковыя прылады назіраюць вялікі абшар. На працягу няцэлай гадзіны з высокасці сваёй арбіты спадарожнікі здолеюць даследваць абшар, які цягнецца ад Паўночнага Ледавітага акіяна да Паўднёвай Афрыкі, перадказваючы інфармацыі аб пагодзе да ўспамянутага цэнтра.

Гэты вялізарны ручэй метэаралагічных інфармацый накіроўваецца да самадзеючых машын, якія іх апрацоўваюць. Так паўстаюць прагнозы на бліжэйшыя гадзіны, дні, пяціднёўкі, дэкады, месяцы, а нават гады.

**На здымку: Матэматычная машына «М-20» гідраметэаралагічнага цэнтра СССР. Пры дапамозе электронных лічачых машын штодзённа ўкладаецца каля 50 разнастайных карт прагнозаў пагоды. (а-ка)**






### СТЫЛЬ ПРАЦЫ

Палкоўнік армейскай контрразведкі Берг са знікненнем Мухі ўнутрана ўвесь скруціўся: пасля таго, як фюрэр звольніў у адстаўку адмірала Канарыса — шэфа абвера - кожны зрыў супрацоўнікаў абвера ўспрыймаўся гестапа як лішняе пацвярджэнне іх слушнасці ў старой варожасці з арміяй.

Берг чакаў, калі над яго галавой узнімецца бура. І толькі калі Берг даведаўся аб правале гестапа з рускім маёрам — разведчыкам, ён супакоіўся: гестапа не будзе цяпер зводзіць з ім разлікі, таму што яны ўпусцілі куды больш важнага чалавека. Пасля ўцёкаў рускага маёра з кракаўскага рынка Берг падумаў, што тут, відаць, ёсць лагічная сувязь: Муха — радыстка — рускі маёр. І Берг пачаў дзейнічаць зыходзячы з гэтага меркавання. Гестапа пайшло сваёй звычайнай дарогай: масавыя аблавы, арышты, падслухоўванне тэлефонных размоў у Кракаве, узмоцненая агентурная распрацоўка падазроных палякаў. Берг выбраў іншую дарогу: ён выкрэсліў для сябе Кракаў і сканцэнтраваў пошукі на кракаўскіх прыгарадах. Пяць радыёпеленгатарных аўтамашын кругласутачна курсавалі па дарогах у радыусе пяцідзесяці кіламетраў навокал горада. Дзесяць груп з пераноснымі пеленгатарамі пачалі метадычнае прачэсванне лясоў і гор навокал Кракава. Берг не спяшаўся: ён меркаваў, што радыстка напэўна выйдзе на сувязь са сваім цэнтрам. Ён ведаў таксама, што рускія радысты заўсёды доўга тарчаць у эфіры, часу засекчы іх будзе дастаткова.

Берг не памыліўся. Праз дзень пасля знікнення Мухі радыёперахват засёк новы пункт, які знаходзіўся прыблізна ў трыццаці кіламетрах ад Кракава, у кірунку Закапанэ. На наступны дзень Берг падцягнуў у гэты раён сем груп з дзесяці і тры аўтамашыны. Праз дзень быў засечаны дакладны раён новага радыёпункта. А яшчэ праз тыдзень Аня была арыштавана ваеннай контрразведкай. Віхор выратаваўся выпадкова: салдат праколваў сена на вышках, дзе ён ляжаў, не так дакладна, як трэба. Штык тры разы пракалоў нагавіцы Віхра і адзін раз пацарапаў галаву. Віхор чакаў, што яны пасля вобыскаў у хаце падпаляць і хлеў і хату пасечніка. Таму ён ляжаў, сціснуўшы ў руцэ гранату. Здавацца ён не стаў бы проста так. Ён бы выйшаў да іх і ўзарваў бы пяток фашыстаў разам з сабою.

Віхор чуў, як Аню білі і як афіцэр крычаў:

— Дзе рэшта; чырвоная шлюха?!

— Я адна, — адказвала дзяўчына.

Плечы Віхра пачалі здрыгвацца па тым ліку ўдараў, якія ён чуў.

— Эх, вы, еўрапеец, — сказала Аня. — Няўжо ў вас прынята біць жанчын?

— Ты паршывая шлюха, а не жанчына! — крыкнуў афіцэр. — Лягай на зямлю тварам ўніз!

— Я не лягу тварам уніз, — адказала Аня. — Можаце страляць у твар.

— Перш чым я выстралю табе ў твар, ты яшчэ мне патанцуеш! — сказаў афіцэр. — Ты ў мяне яшчэ так патанцуеш, што ой - ой! І табе не паможа любімая радзіма і дарагі таварыш Сталін!

— Мне паможа радзіма, — адказала Аня, — мне паможа таварыш Сталін, а вам ужо нішто не паможа.

Віхор уявіў яе сабе цяпер: такую прыгожую, жаночую, але ў той жа час яшчэ дзіця.

«Ну? — падумаў ён. — Пара выходзіць, ці што?»

Лёс разведчыка... Касабланка, начныя рэстараны, танцоркі, якія ў перапынках паміж любоўю кураць, лежачы на спіне, каля змучанага генерала, і паміж справамі пытаюцца ў яго аб сакрэтах у генеральных штабах; алюміневыя самалёты і трансатлантычныя пералёты для перагавораў за кактэйлем з фінансавымі магнатамі; канспіратыўныя яўкі ў таямнічых катэджах з двайнымі сценамі; выкраданні чужых афіцэраў, тоўстыя пачкі новенькіх банкнотаў; любоў вострагрудых флегматычных бландзінак; раўты і дыпламатычныя прыёмы, лёгкая — за кубкам кавы — вярбоўка паслоў і міністраў...

А вось так ляжаць у сене і слухаць, як б'юць дзяўчыну і прымушаюць яе лягаць на зямлю, а ты прытаіўся ў сене, і цябе раздзіраюць доўг і сэрца, розум і парыў — тады як? А калі давodзіцца жартаваць з чалавекам, глядзець яму ў вочы, частаваць яго абедам, але ведаць, што зараз, пасля гэтага абеда, калі вы разам пойдзеце па начной вуліцы, ты павінен будзеш гэтага твайго добрага знаёмага забіць як ворага? А ты бываў у яго, і ведаў яго дзяцей, і бачыў, як ён гуляў з аднагадовай дачкой... Як тады? А калі ты павінен спаць з жанчынай, разыграўшы любоў да яе, а ў сэрцы ў цябе іншая, тая,

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЗАКУПКІ СЕНА

ГС-ы купляюць сена найлепшых гатункаў — «экстра» або першага гатунку. Найбольш купляюць сена ГС-ы ў Вышках і Боцьках, Бельскага павета.

За сто кілаграмаў сена плаціцца ад 100 да 120 злотых — у залежнасці ад гатунку. (ся)

## ГЭТА ПАХВАЛЬНАЕ

Беластоцкі ВЗГС намераны ўвасці беларускія народныя ўборы для афіцыянтак рэстаранаў у Белавежы — а таксама ўвасці элементы беларускай аздобнай арнаментацыі ў гэтых памяшканнях.

Гэта першая такога роду ініцыятыва ў нашым беларускім нацыянальным рэгіёне. (ся)

## ЗМВ НА БЕЛЬШЧЫНЕ

У Бельскім павеце кожны ч а ц в ё р т ы хлопец ды дзяўчына з'яўляюцца членамі ЗМВ. Ва ўзросце ад 15 да 20 год налічваецца каля 1 230 членаў ЗМВ, ва ўзросце 21—25 год налічваецца каля 800 членаў і каля 350 членаў ва ўзросце старэйшым — звыш 25 год. (ся)

## ГУРТКІ САМААДУКАЦЫІ

Гурткі сельскагаспадарчай самаадукацыі карыстаюцца рознымі дапаможнікамі: сельскагаспадарчымі часопісамі, нават кніжкамі, але найчасцей — збіраюцца яны на тэлевізійныя сельскагаспадарчыя праграмы, часамі, радыёпраграмы.

Такіх гурткоў у Беластоцкім павеце налічваецца 33, у Дуброўскім павеце — 20, у Гайнаўскім — 11, у Сакольскім — таксама 11, а ў Бельскім павеце ўвогуле няма іх. Лікі гурткоў сельскагаспадарчай самаадукацыі сведчаць аб зацікаўленні гаспадароў павышэннем узроўню сваіх гаспадарак.

У цэлым Беластоцкім ваяводстве існуе такіх гурткоў 698, у адным Высока-Мазавецкім павеце — 138. (ся)

## ГАСПАДАРЫ «НА ВАГАРАХ»

На занянткі сельскагаспадарчых курсаў у Бельскім павеце абавязана было хадзіць 3 751 гаспадар, але хадзіла 3 038 гаспадароў. Значыць, 713 гаспадароў «вагаравала». У Гайнаўскім павеце кінулася «ў вагары» 287 гаспадароў, у Сакольскім павеце — 403, у Сямяціцкім — 138 гаспадароў. (ся)

## У ДЗЯНІСКАХ НАЙРАНЕЙ

Аказваецца, у Дзянісках (пад Бельскам) вырастаюць агуркі найраней у Польшчы. Нягледзячы на даволі халодны клімат Беласточчыны, ёсць магчымасць вырасціць зусім раннія агуркі, што асабліва аплачваецца. (ся)

## ДЗЯЖУРСТВЫ

Для лепшага забеспячэння запасовымі часцямі сельскагаспадарчых машын у час жніўных работ у полі — уведзена дзяжурствы ў **кожным** складзе машын пры ПЗГС-ах, а таксама пры ГС-ах у Дуброве і Лапах. Дзяжурствы адбываюцца **да сёмай гадзіны вечара.**

Варта зазначыць, што ў складах павінны быць усе найчасцей патрэбныя запасовыя часці да машын. Нядаўна атрымана вялікія транспарты гэтых часцей. (ся)

## БУЛЬБЯНЫ РАЁН

Кантрактацыя звычайнай бульбы на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства канцэнтруецца ва ўсходніх і паўднёва-ўсходніх паветах. Перш за ўсё ў такіх паветах, як: Саколка, Дуброва, Гайнаўка, усходняя частка Беластоцкага павета, а таксама — Бельскага.

Афіцыяльныя планы прадбачваюць значнае павелічэнне размераў кантрактацыі бульбы ў гэтых ваколіцах. Мясцовыя лёгкія землі вельмі адпаведныя для вырошчвання смакавітай «беларускай» рассыпістай бульбы, значная частка якой экспартуецца нават за граніцу. (ся)

## БУДЗЕ ЛЕС

Каля дарогі з Новай Волі ў Плянты знаходзяцца вялікія абшары зарослыя ядлоўцамі. Абшар гэты — Нававольскі, Плянтаўскі і Баршчэўскі калісьці сервітут. Служыў ён толькі за пашу для авечак і кароў. У гэтым годзе мясцовыя ўлады пастанавілі гэты сервітут загаспадараваць. Выкарчавана і засаджана лесам 74 га.

У наступным годзе мае быць загаспадаравана такая самая колькасць гектараў, як у г. г.

Загаспадаравана таксама Лысую Гару, што пад Слабодкай. Тут цяпер на пясчаных выдмах зелянеюць маладзенькія дрэўкі сасны і яліны.

**М. Л.**
Беластоцкі павет

## СПОРТ У ПЛЁСКАХ

У Плёсках арганізаваўся гурток ЛьЗС. Заснавальнікамі яго з'яўляюцца Сцёпа Іванюк і Толік Абрамюк. Пакуль што гурток налічвае 15 членаў. Цяпер у кожны святочны дзень наша моладзь прыемна праводзіць час на спартыўнай пляцоўцы.

**Вераніка Леанюк**
Плёскі

## ЖНІВО Ў ПЛЁСКАХ

Як кожны год, так і сёлета, сяляне з Плёсак першымі ў Бельскім павеце пачалі жніво. Пераважна працавалі машынамі. Сусед памагаў суседу. У дружным калектыве жніво прайшло хутка і вясёла. На працягу некалькіх дзён усё жыта было скошана.

**Тэкст і фота: П. Зінкевіч**

## ПАШТОЎКА З ГАЙНАЎКІ

**Вуліца 1 Мая.**

Фота: А. Казёл

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — «НІВА» АДКАЗВАЕ

**Пытанне:** Я прадала «дабравольнай умовай» 5 га зямлі ў 1966 г. — з агульнай плошчы 8 га. Пакупнік не аплочвае падаткаў і іншых дзяржаўных павіннасцей і не хоча перапісаць зямлю на сябе. Ці магу я вярнуць зямлю?

**Адказ:** Прадаць зямлю можна толькі актам натарыяльным. Пры гэтым прадаць Вы маглі б толькі цэлую гаспадарку, а не можаце прадаць частку гаспадаркі. І таму, калі б Вы нават звярнуліся да натарыуса, ён адмовіўся б скласці акт куплі — продажу 6 га, калі Вы маеце ўсяго 8 га. З гэтай прычыны «дабравольная ўмова», якую Вы заключылі з грамадзянінам Р., з'яўляецца няважнай і не абавязвае ані Вас, ані пакупніка Вашай зямлі, і Вы можаце патрабаваць звароту зямлі за зваротам 15 000 зл., якія Вам заплаціў Р.

Ад гэтых грошай Вы можаце адлічыць тое, што Вы заплацілі дзяржаве за падаткі. Звароту таго, што ад Вас належыцца за падаткі, а чаго Вы яшчэ не заплацілі — Вам не прыслугоўвае права.

Калі б гр. Р. адмовіўся звярнуць Вам зямлю, Вы можаце выступіць у павятовы суд у Бельску.

## ЧЫСЦІНЯ І ПАРАДАК

Прадаўшчыцай вясковай крамы ў вёсцы Агароднікі, Гайнаўскі павет, з'яўляецца маладая дзяўчына Аля Карповіч. У краму прыемна зайсці. Прадаўшчыца ветліва адносіцца да сваіх кліентаў. У вёсцы ёсць некалькі мужчын, якія часта любяць ад піва ўпіцца, а потым кураць у краме і ім нельга сказаць, бо яшчэ будуць і на прадаўшчыцу крычаць. Я не хачу падаваць прозвішчаў тых мужчын, якія часта кураць у краме, мо' яны самі, прачытаўшы пра сябе ў газеце, адумаюцца і перастануць курыць у краме. Варта так зрабіць.

**М. Л.**
Гайнаўскі павет

## ХТО ВЕДАЕ ТАЙНУ СМЕРЦІ САВЕЦКАГА РАЗВЕДЧЫКА?

Каля вёскі Дубічы Царкоўныя (Гайнаўскі павет) знойдзен шкілет чалавека з гранатамі і вінтоўкай. Пры ім захавалася капсула, у якой **былі на**ступныя дадзеныя: Петрачэнка Арсень Аляксандравіч, нар. 1918 г., разведчык, Віцебская вобласць, Росанскі раён, Заборскі сельсавет, вёска Забалошчы.

Акалічнасці смерці невядомыя. Хто ведае тайну смерці савецкага разведчыка, просім напісаць у рэдакцыю.

**В. Б.**

## ПРЫЕМНА

Святліца ў Тапорках на Гайнаўшчыне даволі вялікая. Існуе другі год. Пры ёй ёсць невялікі крамік, дзе можна купіць дробныя рэчы: мыла, сшыткі, ліманад і інш. У святліцы стаіць грамадскі тэлевізар, пры якім штовечар збіраюцца жыхары вёскі. Нядаўна сцэны, столь і падлога святліцы былі памаляваны прыгожай фарбай. Пануе тут чысціня і парадак.

**М. Панфілюк**

---

адзіная. Тады як? А калі можна сказаць на допыце толькі адно — адзінае «так», а адказваць трэба «не», а за гэтым «не» устае камера катаванняў, адчай, жах і безвыхаднасць, а потым доўгі калідор, холад, пліты, у апошні раз неба, у апошні раз позірк, у апошні раз людзі — хай нават тыя, якія расстраляюць цябе ў патыліцу, але ўсё роўна людзі, якія ў апошні міг могуць стацца раптам блізкімі — блізкімі. Толькі таму, што яны апошнія людзі, якіх ты зможаш бачыць на зямлі! Тады як?!

Недзе зусім побач загудзеў аўтамабільны матор. Хлопнулі дзверы, і Віхор пачуў нямецкую мову:

— Перастаньце, дурань вы гэтакі! Што гэта за дзікасць — біць жанчыну!

Потым гэты ж чалавек мякка сказаў:

— Я прашу прабачэння за гэту агіднасць. Калі ласка, сядайце ў машыну!

Ані пераклалі словы немца. Ён чакаў, пакуль ёй гэта перакладалі, а потым сказаў:

— Мне сорамна за вас, пане обер-лейтэнант. Гэта стыль мяснікоў, а не афіцэраў германскай арміі.

— На рускім фронце загінуў мой брат, — ціха адказаў обер-лейтэнант.

— Вайна — гэта не гульня ў кегельбан. Вазьміце пчаляра і едзьце за мною.

Гэта быў Берг.

**Працяг будзе**

# Сардэчныя ТАЙНЫ

## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

У гэтым годзе я скончыла 15 год і пачатковую школу. Здавала экзамены ў адну з гайнаўскіх школ, але не здала, хоць увогуле вучылася нядрэнна. Вельмі хацела б вучыцца далей. Напішы мне, ці ў гэтым годзе ёсць магчымасць паступіць на якую-небудзь школу, ці ёсць яшчэ месца, ці будзе новы набор? За параду буду вельмі ўдзячна.

**Зіна з Гайнаўшчыны**

Жыву ў вёсцы і маю 15 год. У гэтым годзе скончыла пачатковую школу. Хацела б вучыцца далей. Ці ёсць дзе свабодныя месцы? Прашу, адкажы мне як найхутчэй. Буду табе вельмі ўдзячна, — піша Валя з Гайнаўскага павета.

**Дарагія дзяўчаты!**

Школ ёсць вельмі многа ў нашым ваяводстве, таму мне цяжка даведацца, у якой з іх мо' ёсць свабодныя месцы. Ва ўсіх школах ужо прайшлі экзамены, і з наборам кандыдатаў напэўна не было цяжкасцей. Аднак, хоць і слабая надзея, вы як найхутчэй пайдзіце ў Інспектарат асветы ў вашым павеце (у тым выпадку ў Гайнаўцы), дзе вас паінфармуюць. Калі нідзе месца не знойдзецца, пастарайцеся за гэты год салідна падрыхтавацца да экзаменаў на наступны год.

Жадаю поспехаў

**Сэрцайка**

# КІНО

## ПРАГРАМА

**на 8—13.VIII. 1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Wszystko dla psów" (angl.), 8—9. „Grunt to zdrowie" (franc.), 10—11. „Miejsce dla jednego" (polski), 12—13.

**Кляшчэлі**

„Teresa Desgueraux" (franc.), 8—9. „Szkoła grzeszników" (czeski), 10—11. „Fanfan Tulipan" (franc.), 12—13.

**Дубіны**

„Przygody Wernera Holta" (NRD), „Sposób bycia" (polski), 12—13.

**Нараўка**

„Popioły" (polski), I i II s. 9—13.

**Нарва**

„Sublokator" (polski), „Fatalny list" (ang.), 9—13.

**Дубічы Царкоўныя**

„Panie inspektorze" (francuski), „Śmierć Belli" (franc.), 9—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Bokser" (polski), „Samotna" (radziecki), 9—13.

**Орля**

„Starsza pani bez godności" (francuski), „Gangster i urzędnik" (USA), 9—13.

**Райск**

„Cierpkie głogi" (polski), „Długość pocałunku 90" (czeski), 9—13.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Tata, mama, córka i zięć" (radziecki), „Gorące lato" (jugosł.), 8—11.

**Міхалова**

„Ten wstrętny celnik" (franc.), 8—9. „Upiór z Marsville" (czeski), 10—11. „Kontrybucja" (polski), 12—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Haszek i jego Szwejk" (czeski), 8—9. „Kapral w matni" (franc.), 10—11. „Sam pośród miasta" (polski), 12—13.

**Шудзялава**

„Barwy walki" (polski), „Zdradzona ziemia" (rumuński), 9—13.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Ściana czarownic" (polski), „Pluton 317" (franc.), 9—13.

**Новы Двор**

„Okno na lunapark" (włoski), „Piekło i niebo" (polski), 12—13.

**Ліпск**

„Trzy kroki po ziemi" (polski), 12—13.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Януш Аеэнка

# 3 рук у рукі

Дзеючыя асобы:

Уласнік аўтамашыны

Злодзей

**Злодзей.** Прашу прабачэння, ці не купілі б вы фару для сваёй аўтамашыны?

**Уласнік.** Дзякую, не маю патрэбы. Абедзьве фары ёсць.

**Злодзей.** Пакуль што ёсць, але вы можаце іх і не мець. Хіба вы не ведаеце, як абкрадаюць аўтамашыны? А я хачу пазбавіць вас лішніх клопатаў.

**Уласнік.** Можа і праўду кажаце, што варта купіць яшчэ адну ў запас. А калі яна крадзеная?

**Злодзей.** Лепш крадзеная, чым ніякая. У магазіне не дастанеш, а без фары не паедзеш.

**Уласнік.** І то праўда. Дзе ж тая ваша фара?

**Злодзей.** Яшчэ на машыне, але адкруціць — для мяне гэта дробязь.

**Уласнік.** Дык вы хто? Злодзей? Які сорам!

**Злодзей.** Мне таксама непрыемна, але што зробіш?

**Уласнік.** Ну добра, толькі хутчэй... Але пра гэта я нічога не ведаю.

**Злодзей.** Усё зроблена. Плаціце дзве соценныя.

**Уласнік.** Але ж вы павінны яе адкруціць!

**Злодзей.** Навошта? Яна на вашай машыне.

**Уласнік.** А, гэта вы мяне хочаце абкрасці? Якое нахабства!

**Злодзей.** Не нахабства, а ветлівасць з майго боку. Не хачу вам прычыняць клопату з пошукамі фары, дык адразу прапаную. Такім чынам, вы ні хвіліны не будзеце без фары. Тым больш, што яна будзе цэлая, бо не трэба ні адкручваць, ні прыкручваць.

**Уласнік.** І тут ваша праўда. Што ж, куплю гэтую сваю фару.

**Злодзей.** Правільна зробіце. Яна ўжо выпрабавана і якраз падыходзіць да вашай машыны. Каб я ўкраў у каго другога, магла б не падысці!

**Уласнік.** І то праўда. Калі ласка, бярыце дзвесце злотых.

**Злодзей.** Шчыра дзякую. А шклоачышчальнік не купіце? Аддам па дзяшоўцы. Пяцьдзесят злотых!

**Уласнік.** Таксама мой?

**Злодзей.** Таксама. А што? Хіба ён дрэнны?

**Уласнік.** Чаму ж? Як мае быць!

**Злодзей.** Ну, дык заадно... Прапаную яшчэ каўпакі на колы.

**Уласнік.** Каўпакі? Гэта ўжо занадта!

**Злодзей.** Што вы, я толькі раю. Калі я іх у вас украду, дык вы нідзе такіх каўпакоў не знойдзеце. Чатыры паперкі.

**Уласнік.** Што, што?

**Злодзей.** Як што? Чатырыста злотых!

**Уласнік.** Мае апошнія грошы! Вазьміце...

**Злодзей.** Дзякую, Бывайце!

**Уласнік.** Бывайце... Божа мой! Злодзей на злодзеі...

**Злодзей.** Эх, каб не было пакупнікаў крадзенага, дык не было б і злодзеяў!






### ПАДАРУНКІ

Пасля аднаго вяселля сустрэліся тры сябры.

— Я падарыў маладым кафейны сервіз на дваццаць персон, — сказаў адзін.

— А я — на дваццаць чатыры, — пахваліўся другі.

Трэці селянін таксама ў кішэню за словам не палез:

— Я падарыў ім шчыпцы для цукру. З імі можна абслужыць 250 асоб!

### АБЯЦАННЕ

— Міхаська, калі ты будзеш слухацца тату, дык паслязаўтра вазьму цябе з сабой на кірмаш, каб убачыў, як людзі ядуць лядзяшы.

### А ДЗЕ Ж МАМА?

Шэравокая дзяўчынка Галя пытаецца ў бабулі:

— Скажы, бабулька, мой тата — гэта твой сын?

— Ага, унучачка...

— А дзе ты яго ўзяла?

— Знайшла ў лесе. Збірала грыбы і бачу — пад ёлачкай хлопчык...

На гэта ўнучка гаворыць:

— А, дык ты толькі знайшла тату, а дзе ж тая мама, якая яго кінула?..

— Мілы, віншую з рэкордам!

### НІКОЛІ НЕ ПОЗНА

— Ты што, Жана, у кіно збіраешся? Сёння ж занятк1 ў вячэрняй школе.

— Другім разам пайду. Вучыцца ніколі не позна.

### У АНТРАКЦЕ

Жонка звяртаецца да мужа:

— Глядзі, Вася, як той мужчына дагаджае сваёй партнёршы. То цукеркамі частуе, то марожанае прынясе. А ты што?

— Дык я ж з ёю не знаёмы.

### ЗНАЙШОЎ СРОДАК

У камендата інтэрната пытаюць:

— Як вы змагаецеся з шумам?

— Калі кладуся спаць, дык галаву падушкай накрываю.

### ЛІШНЯЯ АДЗІНКА

Фінансавы інспектар на спектаклі «Рэвізор»:

— Навошта ў гэтай п'есе два плеткары? Хіба не хапіла б аднаго Бобчынскага?

### ПРЫЧЫНА Ў ІНШЫМ

Дырэктар швейнай фабрыкі:

— Няўжо вы не маглі лепшую манекеншчу падабраць? У яе ж нязграбная фігура.

— Не спяшайцеся з вывадам. Пабачыце, як яна надзене сукенку іншай фабрыкі.

Ул. Корбан

# АВЕЧКА

(Байка)

Памалу дзень падаўся на спакой.
Вярнуўся статак з поля,
Наскубшыся травіцы ўволю
На пашы за ракой.
У небе зорачкі зазялялі.

На змену шумнага, напружанага дня
Нарэшце завітала цішыня.
Усе адпачывалі,

Разлёгшыся дзе хто па ўсім двары:
Ля веснічак заснуў казёл стары,
Авечкі, у кучу збіўшыся, драмалі,
Каровы жвачку жвалі.

Прылёг ля іх бугай, — за дзень стаміўся ён.
Паблізу і Палкан скруціўся.
На двор цавольна апускаўся
На лёгкіх крылах сон.

І вось, калі ужо ўсё жывое спала,
Авечка нейкая — Бе! Бе! — чагосьці заблеяла.

Праз некалькі хвілін — ізноў.
Палкан ускочыць быў ужо гатоў,

Ды толькі пазяхнуў, — ён ведаў, што дурная
Прабэкае ўсю ноч, не помнячы сябе.
Другія будуць спаць, а гэта ўсё — бе! — бе!
Чаго? — яна й сама не знае.

Бязглузды пустазвон авечы розум мае.
Ён бэкаць без прычын гатовы тут і там.
Спытайце ж у яго, — не скажа вам,
Чаго яму, брыдоце, не хапае.



— Разумееце, доктар, купіла я яму мініяцюрны радыёпрыёмнік...

Прыгоды Хаджы Насрэдзіна

### СТРАШЫДЛА

Прачуўшы пра незвычайную кемлівасць Насрэдзіна Афандзі, эмір Цімурленг загадаў яму жыць пры двары. Зайшоў аднойчы Афандзі ў спальню Цімурленга і заўважыў, што ён плача перад люстрам.

— Ваша вялікасць, калі пашкадуеце лыжку маёй крыві, то я асмелюся задаць вам адно пытанне... — звярнуўся Афандзі да Цімурленга.

— Гавары!

— Хацеў бы я ведаць, чаго мой шаноўны ўладар лье слёзы, гледзячы ў люстра?

— Колькі жыву я на зямлі і ні разу не глядзеўся ў люстра. І вось сёння паглядзеў на сябе. Хто я? Я, які сваім мечам скарыў увесь свет, нагрувасціў горы адсечаных галоў, аказваецца, такі абразлівы... Гляджуся ў люстра і мне сорамна. Няўжо я, эмір Цімур, такое страшыдла?

— Вы, мой шаноўны ўладар, паглядзелі на сябе ў люстра толькі адзін раз і заплакалі. А як жа нам, вашым рабам, якім даводзіцца па дзесяць разоў у дзень глядзець на вас? — прамовіў Афандзі.

# РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ

Словы А. Бачылы

Музыка Ул. Алоўнікава




Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві!
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

На рэках шырокіх і нівах,
Заводах, будоўлях — навуцяж
Народ наш працуе руплівы,
І край узвышаецца наш.

Я радасць сваю не стрымаю,
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма.

Чужое зямлі нам не трэба —
Пачуцці ў нас сёння адны:
Мы хочам, каб мірнае неба
Не знала пажараў вайны.

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві.
Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві!

# Курёзы

### ДЗЕНЬ БЕЗ ГАСПАДЫНІ

Толькі адзін дзень жыхару Мехіка — Сіці давялося гаспадарыць без жонкі і замяняць семярым дзецям маці. З нататак, у якіх ён зафіксаваў сваю «мацярынскую дзейнасць», вынікае, што на працягу дня яму давялося 53 разы адчыняць дзверы, 17 разоў рабіць бутэрброды, 9 разоў прасіць прабачэння перад суседзямі, 136 разоў адказваць на пытанні і 146 разоў пакінуць розныя пытанні без адказу.

### БУТЭЛЕЧНАЕ СВАТАЎСТВА

Малады англічанін Брыян Коул не мог знайсці нявесты ў сваёй акрузе. Тады ён напісаў 1282 шлюбныя аб'явы, запячатаў іх у бутэлькі і кінуў у мора.

Праз некаторы час энергічны жаніх пачаў атрымліваць адказы ад сваіх заморскіх карэспандэнтак. З адной з іх — Інгай Брыт (Швецыя) Коул пачаў весці перапіску. А нядаўна яны ажаніліся.

Аднак «бутэлечная пошта» працягвае працаваць. Усяго Коул атрымаў звыш 500 пісьмаў ад сваіх аднагодак з розных краін свету.

### СТАТЫСТЫКА ЖАНОЧЫХ КАПРЫЗАЎ

Чаму жанчыны купляюць часам непатрэбныя ім рэчы? Адзін амерыканскі жаночы часопіс лічыць, што па сабраных анкетных даных яму ўдалося знайсці адказ. Усяго набралася шэсць матываў: па-першае, таму, што муж супраць; па-другое — рэч каштуе нядорага; патрэцяе — яна з Парыжа; пачацвёртае — па той прычыне, што такую самую рэч купілі суседкі; па-пятае — з прычыны таго, што такой рэчы ні ў кога няма, і пашостае — таму што яна ёсць ва ўсіх жанчын.




Крывое дрэва і ў зямлі крыва ляжыць.